*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 28 (1075) 11 ЛІПЕНЯ 2012 г.**

## Дарагія сябры “Нашага слова”!

У гэтым квартале адбылося сезоннае змяншэнне колькасці падпісчыкаў, падзенне адбылося па ўсіх абласцях, дзе большае, дзе меншае. Але ёсць і раёны, дзе колькасць падпісчыкаў не толькі захавалася, а і павялічылася. У першую чаргу гэта Салігорск, які выйшаў на другое месца ў краіне пасля Менска. Павялічылася падпіска ў Жыткавічах, Бабруйску, Паставах, Лунінцы, Калінкавічах, Гарадзенскім раёне і іншых.

| | Красавік | Ліпень |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 18 | 15 |
| Бяроза р.в. | 11 | 10 |
| Белаазёрск р.в. | - | 1 |
| Бярэсце гор. | 17 | 10 |
| Ганцавічы р.в. | - | 1 |
| Драгічын р.в. | - | 1 |
| Жабінка р.в. | - | 1 |
| Іванава р.в | 2 | 2 |
| Івацэвічы р. в. | 9 | 9 |
| Камянец р.в. | 2 | 2 |
| Кобрын гор. | - | 1 |
| Лунінец гор. | 2 | 3 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 |
| Маларыта р.в. | - | 1 |
| Пінск гор. | 13 | 11 |
| Пружаны р.в. | 7 | 9 |
| Столін р.в. | - | 1 |
| **Усяго:** | **82** | **79** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 2 | 2 |
| Браслаў р.в. | 2 | 1 |
| Віцебск гор. | 28 | 20 |
| Віцебск РВПС | 2 | 2 |
| Верхнедзвінск р.в. | 5 | 5 |
| Глыбокае р.в. | 5 | 6 |
| Гарадок р.в. | 5 | 4 |
| Докшыцы р.в. | 1 | 1 |
| Дуброўня р.в. | - | 1 |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 2 | 2 |
| Міёры р.в. | 2 | 2 |
| Новаполацк гор. | 21 | 15 |
| Орша гор. | 3 | 3 |
| Полацк гор. | 9 | 8 |
| Паставы р.в. | 12 | 14 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 2 | 2 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 2 | 2 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 7 | 6 |
| Шуміліна р.в. | 1 | - |
| **Усяго:** | **115** | **100** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 2 | 2 |
| Барысаў гор. | 7 | 5 |
| Вілейка гор. | 2 | 2 |
| Валожын гор. | 9 | 9 |
| Дзяржынск р.в. | 6 | 7 |
| Жодзіна гор. | 6 | 4 |
| Клецк р.в. | 2 | - |
| Крупкі р.в. | 2 | 3 |
| Капыль р.в. | 4 | - |
| Лагойск | 3 | 3 |
| Любань р.в. | 1 | - |
| Менск гор. | 288 | 239 |
| Менск РВПС | 15 | 13 |
| Маладзечна гор. | 15 | 14 |
| Мядзель р.в. | 3 | 3 |
| Пухавічы РВПС | 5 | 5 |
| Нясвіж р.в. | 1 | - |
| Смалявічы р.в. | 2 | 1 |
| Слуцк гор. | 22 | 21 |
| Салігорск гор. | 69 | 73 |
| Ст. Дарогі р.в. | 1 | - |
| Стоўбцы р.в. | 4 | 3 |
| Узда р.в. | 2 | 2 |
| Чэрвень р.в. | 4 | 4 |
| **Усяго:** | **475** | **413** |
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 2 | - |
| Брагін р.в. | 2 | 1 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 35 | 30 |
| Гомель РВПС | 1 | 1 |
| Добруш р.в. | - | 1 |
| Ельск р.в. | - | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 9 | 13 |
| Жлобін гор. | 2 | 1 |
| Калінкавічы гор. | - | 2 |
| Карма р.в. | 2 | 1 |
| Лельчыцы р.в. | 1 | 1 |
| Лоеў р.в. | 1 | 1 |
| Мазыр гор. | 1 | 4 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 1 |
| Нароўля р.в. | 1 | - |
| Петрыкаў р.в. | - | 1 |
| Рэчыцца гор. | - | 1 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 4 | 2 |
| Хойнікі р.в. | 1 | - |
| Чачэрск р.в. | 4 | - |
| **Усяго:** | **69** | **64** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 4 | 4 |
| Ваўкавыск гор. | 10 | 9 |
| Воранава р.в. | 5 | 5 |
| Гародня гор. | 40 | 36 |
| Гародня РВПС | 10 | 12 |
| Дзятлава р.в. | 16 | 16 |
| Зэльва р.в. | 4 | 4 |
| Іўе р.в. | 5 | 3 |
| Карэлічы р.в. | 9 | 9 |
| Масты р.в. | 5 | 6 |
| Навагрудак гор. | 5 | 5 |
| Астравец р.в. | 6 | 6 |
| Ашмяны р.в. | 8 | 7 |
| Смаргонь гор. | 8 | 7 |
| Слонім гор. | 10 | 9 |
| Свіслач р.в. | 5 | 5 |
| Шчучын р.в. | 7 | 5 |
| Ліда | 11 | 11 |
| **Усяго:** | **168** | **159** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 3 | 6 |
| Бялынічы р.в. | - | 1 |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | - | 1 |
| Горкі гор. | 1 | 1 |
| Дрыбін р.в. | 1 | - |
| Кіраўск р.в. | 21 | 21 |
| Клічаў р.в. | 2 | - |
| Клімавічы р.в. | 1 | - |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 1 |
| Краснаполле р.в. | 1 | - |
| Крычаў р.в. | 1 | - |
| Круглае р.в. | 1 | 1 |
| Мсціслаў р.в. | 1 | 1 |
| Магілёў гор. | 45 | 33 |
| Магілёў РВПС | 1 | 1 |
| Асіповічы гор. | 9 | 9 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | - | 1 |
| Чэрыкаў р.в. | - | 1 |
| Чавусы р.в. | 1 | - |
| Шклоў р.в. | 3 | 3 |
| **Усяго** | **95** | **83** |
| **Усяго на краіне:** | **1004** | **898** |

ISSN 2073-7033


9 772073 703003

## Украіна змагаецца за мову

У Кіеве працягваецца бестэрміновая акцыя ў абарону ўкраінскай мовы. Еўрапейскую плошчу ўкраінскай сталіцы не пакідаюць абаронцы ўкраінскай мовы, якія патрабуюць адклікання прынятага Вярхоўнай Радай 3 ліпеня закона "Аб асновах дзяржаўнай моўнай палітыкі".



Згодна з гэтым законам расейская мова атрымае статус рэгіянальнай у 13 з 27 абласцей Украіны. Мова ідзе ў асноўным аб расейскамоўных усходніх і паўднёвых абласцях, дзе пераважна жывуць выбаршчыкі кіраўнічай Партыі рэгіёнаў.

Дэпутаты фракцыі "Наша Ўкраіна - Народная Самаабарона" ў парламенце Ўкраіны пачалі галадоўку каля культурнага асяродка "Ўкраінскі дом" у цэнтры Кіева. Яны патрабуюць скасаваць ўхвалены законапраект пра статус расейскай мовы.



Старшыня Вярхоўнай Рады Ўкраіны Ўладзімір Літвін падаў у адстаўку на знак пратэсту супраць прыняцця закона аб статусе расейскай мовы. Літвін лічыць, што законапраект не быў гатовы да разгляду, ён абураны, што галасаванне было праведзена ў яго адсутнасць. Аб адстаўцы заявіў і віца-спікер Мікалай Таменка з апазіцыйнай фракцыі "Блок Юліі Цімашэнкі-Бацькаўшчына".

У Днепрапятроўску, на плошчы каля Днепрапятроўскага тэатра оперы і балету, таксама ідзе бестэрміновая акцыя пратэсту апазіцыйных сіл на абарону дзяржаўнай мовы. Арганізатары акцыі абвясцілі аб пачатку "новага Майдану". У акцыі бяруць удзел каля сотні прадстаўнікоў выбарчага аб'яднання "Бацькаўшчына", "Фронту пераменаў", "Нашай Украіны", выбарчага аб'яднання "Свабода", шэрагу грамадскіх арганізацый.

Супрацьстаянне працягваецца і пагражае выліцца ў поўнамаштабны палітычны крызіс. І можна толькі здагадвацца, чым і для каго ён закончыцца.




## Краіна і свет адзначылі Купалле і 130-я ўгодкі з дня нараджэння Янкі Купалы

7 ліпеня 130 гадоў з дня нараджэння Янкі Купалы адзначалі па ўсім свеце: ад Казані і Масквы да Нью-Ёрка. Напярэдадні ў Меску рота ганаровай варты ўсклала вянок ад кіраўніка Беларусі да помніка народнаму паэту. Гэткім чынам пачалося афіцыйнае святкаванне паважнай даты нацыянальнага класіка, якое працягвалася і працягваецца па гарадах і весях ад Вязынкі і да глыбінных вёсак.

Увесь дзень 7 ліпеня тытульную старонку найбуйнейшага ў свеце пошукавага сэрвісу Google упрыгожваў партрэт песняра абуджэння беларускай нацыі Янкі Купалы. Так інтэрнэт-рэсурс разам з жыхарамі Беларусі адзначыў 130-годдзе з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры.




7 ліпеня ў Магілёве на замкавай гары сябры Таварыства беларускай мовы адзначалі 130-годдзе Янкі Купалы. Імпрэза адбылася ля знака, усталяванага ў гонар галоўнага героя паэмы "Магіла льва" - легендарнага Машэкі.

Да знака актывісты паставілі партрэт Янкі Купалы, усклалі кветкі. Чыталі вершы і адрыўкі з самой паэмы "Магіла льва" ды фрагменты ўспамінаў беларускіх пісьменнікаў пра Купалу. Спявалі песні на купалавы вершы.



- Сто гадоў таму, у 1913 годзе, Янка Купала напісаў паэму "Магіла Льва", якая прысвечаная гісторыі Магілёва. Вось мы цяпер і знаходзімся на замкавай гары, на Магіле льва. Сваім сённяшнім мерапрыемствам мы вырашылі запачаткаваць традыцыю, каб на дзень народзінаў першага Народнага паэта Беларусі збірацца менавіта на гэтым месцы, якое звязана з творчасцю народнага песняра. Паколькі дзень сёння спякотны вырашылі сабрацца надвячоркам. Прыйшлі неабыякавыя людзі да нацыянальнай беларускай культуры і літаратуры. Мяркую, што два дзясяткі чалавек для першага разу - няблага, - зазначыў старшыня магілёўскай арганізацыі ТБМ Алег Дзьячкоў.

Сваё замчышча магілёўцы так і называюць - "Магіла льва". Яно ўзвышаецца на некалькі дзясяткаў метраў над Дняпром. Гэтую асаблівасць адзначыў у сваёй паэме Янка Купала. Цяпер на замкавай гары парк. Дабудоўваецца праваслаўная царква. Непадалёк усталяваны знак Машэку.

Афіцыйныя і неафіцыйныя мерапрыемствы да юбілею Янкі Купалы пераплёліся па ўсёй краіне, што цалкам сведчыць пра ўсеагульную любоў і павагу беларусаў да Янкі Купалы.

***Наш кар.***

# Падзвіжніцкая праца ў галіне роднай мовы

**Піскуноў Ф.А. Вялікі слоўнік беларускай мовы: арфаграфія, акцэнтуацыя, парадыгматыка. Мінск: Тэхналогія, 2012. - XVI + 1208 с.**

"Вялікі слоўнік беларускай мовы" Ф.А. Піскунова змяшчае каля 223 тысяч лексічных адзінак і ўдвая перавышае аб'ём найбольш поўнага на сёння "Слоўніка беларускай мовы" пад рэдакцыяй акадэміка АН БССР М.В. Бірылы, выдадзенага ў 1987 годзе. Слоўнік Ф.А. Піскунова вызначаецца тым, што ён створаны на аснове электроннай базы шляхам апрацоўкі велізарнага тэкставага масіву (больш за 70 млн. словаўжыванняў з 2300 літаратурных крыніц).

У адрозненне ад традыцыйных арфаграфічных слоўнікаў беларускай мовы ў Слоўніку Ф.А. Піскунова большасць змяняльных рэестравых слоў падаюцца з далучэннем адмысловых граматычных памет (індэксаў), якія адсылаюць карыстальніка да адпаведных словазмяняльных і акцэнтных парадыгмаў, змешчаных у трохстах табліцах. Граматычныя індэксы не ўказваюцца толькі для той невялікай часткі змяняльных слоў, поўныя парадыгмы якіх змяшчаюцца непасрэдна ў адпаведных слоўнікавых артыкулах. Нязменныя словы падаюцца без граматычных індэксаў.

Аўтар Слоўніка свядома адмовіўся на старонках свайго выдання ад памет "разм.", "абл." (або "дыял.") і розных стылістычных памет. Пры такіх моўных адзінках маецца спецыяльны надрадковы сімвал * (зорачка).

Многія словы ў Слоўніку Ф.А. Піскунова прыведзены з кароткімі дэфініцыямі. У неабходных выпадках словы забяспечаны спецыяльнымі і іншымі паметамі, што ўказваюць на сферу ўжывання моўных адзінак (спіс такіх памет прыведзены на с. XIII).

На першы погляд здаецца, што Слоўнік Ф.А. Піскунова, такі вялікі сваім аб'ёмам і самы поўны з усіх выдадзеных беларускіх слоўнікаў адносна свайго рэестравага патэнцыялу, амаль цалкам адпавядае лексікаграфічным патрабаванням і з'яўляецца амаль ідэальным, асабліва адносна паўнаты падачы лексічнага багацця беларускай нацыянальнай мовы. Але гэта не зусім так. Для беларускай нацыянальнай мовы вельмі характэрна шырокае ўжыванне аддзеяслоўных назоўнікаў на ***-нне***. На вялікі жаль, у Слоўніку Ф.А. Піскунова "жывыя" беларускія аддзеяслоўныя назоўнікі даюцца несістэмна і далёка няпоўна. Думаецца, у тэксце рэцэнзіі неабходна прывесці спіс такіх моўных адзінак, бо яны як рэестравыя словы павінны будуць быць уключанымі ў вялікі (тамоў на 15) акадэмічны слоўнік тлумачальнага тыпу, праца над якім ужо распачата ў Інстытуце мовы і літаратуры НАН Беларусі.

Такім чынам, у рэестры Слоўніка Ф.А. Піскунова адсутнічаюць словы *абавязванне, абвільгатненне, абвыканне, абірычванне, абложванне, абсейванне* (ёсць толькі *абсяванне*), *абсаюжванне* (з шавецкай справы), *адгравіроўванне, адграньванне, аддрукоўванне, аджлукчванне, адкавельванне, адкалупліванне, адканапачванне, адкоўванне, адкрышванне, адкрышталізоўванне, адлепліванне, адлінейванне, адмабілізоўванне, адпаліроўванне, адплёўванне, адстрыкванне, адтульванне, адцяканне, адчыкрыжванне, адшвартоўванне, адшпуранне, акаймоўванне, акалечванне, аквечванне, акліканне, акрыянне, амяшчаньванне, апаласкванне і апалосканне, апаскуджванне, аперванне, аплоджванне, аплочванне, аплюхванне, апратванне, асвінцоўванне, аслупоўванне, атуханне, ачэрчванне, ашморгванне, блёханне, бубуханне, бурмаванне, варызганне, вухкатанне, вываксоўванне, выверчванне, вывільванне, выгнойванне, выдоўжванне, выдрайванне, выдрапбіноўванне, выжаброўванне, выкамбіноўванне, выкяўзванне, выкіроўванне, выкругленне, вымайстроўванне, вымарожванне, вымудроўванне, выпатрабоўванне, выпешчванне, выпручванне, выпуджванне, вырахоўванне, выруньванне, высіньванне, выскарождванне, выследжванне* ('высочванне па слядах'), *высмыкванне, выструньванне, выстрэнчванне, высуджванне, вытоўкванне, вытыркванне, выфутроўванне, выхайванне, выхандожванне, выхватванне, выхітроўванне, выхлёбтванне, выхукванне, выцалоўванне, выцюкванне, вышмыкванне, вышнарванне, вышрубоўванне, вышпукоўванне, вышчыруўванне, газаванне, гайняванне, галаканне, гаргатанне, гафраванне, гіпанне, грамыханне, грахханне, даварванне, давершванне, даклёпванне, даладжванне, далітоўванне, дапайванне, дапалосканне, дасвідроўванне, даскубванне, даструганне, дасукванне, дафастрыгоўванне, дацягванне, джвяганне, джвуганне, джвэганне, дзегцяванне, дзюганне, дзяленканне, дрыбанне, дуганне, дыліканне, дэбанне, ёйканне, ёўзанне, жалопанне, жалубанне, жвінданне, жвянканне, жлопанне, жмуранне, журкатанне, заарканьванне, забарсванне, забракоўванне, забрытванне, забурванне, заваладванне, заверчванне, завершванне, завітванне, загаджванне, загазоўванне, заглянцоўванне, загольванне, задрыпванне, зазубрыванне, закалупванне і закалупліванне, заканапачванне, закапыльванне, закачванне, залапліванне, залашчванне, залупліванне і залуплянне, залызванне, заляпванне, замазгольванне, замамыльванне, замардоўванне, замарочванне, замілоўванне, замуроўванне, замятанне, занавешванне, запатэнтоўванне, заплюхванне, запойванне, запрацоўванне, запуджванне, запустошванне, запэцкванне, засальванне, засліньванне, засмуроджванне, застасоўванне, застрахоўванне, заструганне, заторкванне, затрымоўванне, затульванне, заўлашчванне, захільванне, зашпурванне, зашчэмліванне, збудоўванне, збузоўванне, звонванне, звярэджванне, згоджванне, зграмаджванне, згрувашчванне, згруджванне, згрупоўванне, здарожванне, здзяванне, здраджванне, зжоўванне, зломванне, зменьванне, знішчожванне, зрахоўванне, зрашэчванне, зынакшванне, зырчанне* і *зырчэнне, зыўканне* (з. куль), *зяванне, зяпанне, ірзанне, ішачанне, кажанне* (ад *казіць* і *казіцца*), *калантыранне, кастылянне* ('біццё'), *катурханне, кахканне, квіканне, кеганне, кепкаванне, керзанне, крыпанне, крэхканне, кхыканне, кырканне, латраванне, лімзанне, ляляканне, мадыгаванне, мачаленне, мергаванне, мжэнне, міканне, морзанне, мруканне, мурматанне, мурцаванне, мурчанне, мэджанне ('майстраванне'), мэнчанне, мяжджуленне, мяканне, мямленне, набухторванне, наваксоўванне, навалаканне, навошчванне, навэнджванне, нагаблёўванне, наддзёўбванне, надкоўванне, назвоньроўванне, накрышванне, налакіроўванне, налепліванне, налінейванне, налузванне, налушчванне, намазольванне, намыльванне, напаліроўванне, напярчванне, напложджванне, напраданне, напражванне, насквараванне, насмажванне, напытванне, напяльванне, нарайванне, насвідроўванне, наслінь ванне, насольванне, наспеўванне, наспіртоўванне, настрашванне, наструджванне, наструньванне, настрыганне, настыванне* і *настыганне, насупліванне, натужванне, нафаршыроўванне, нахвальванне, нахмурванне, нахмыльванне, нацэджванне, начаканьванне, начэрчванне, нашаткоўванне, нашмальцоўванне, наштампоўванне, нашчупванне, наэлектрызоўванне, недапяканне, недасквараванне, ніценне, ныганне, няманне* (дзіцячае - ад *нямаць* 'есці'), *пабрынкванне, пабрэнькванне, пабрэхванне, пагоцванне, пагоцкванне, пагырканне, падвэнджванне, падгрызанне, падзьмухванне, падкавельванне, падкапшванне, падкругленне, падкрышванне, падкульгванне, падлагоджванне, падлакіроўванне, падлапліванне, падлечванне, падлоўліванне, падмасліванне, паднатужванне, падпаясванне, падплятанне, падпорванне, падпярэзванне, падрамантоўванне, падрэтушоўванне, падсвірванне, падсмальванне, падстрашванне, падфутбольванне, падхарчоўванне, падцісканне, падцяльванне, падцярэбліванне, падчэрніванне, падшавельванне, пажоўванне, пакоўзванне, пакрумкванне, палежванне, паморгванне, пастойванне, патрэньканне, пераапылкоўванне, пераапыльванне, перааршыстоўванне, пераборванне, пераявальванне, перадзельванне, перадорванне, пеажлуктванне, перазамаўленне, перазлыганне, перамусольванне, перамяркоўванне, перамятанне, пераназыванне, перанакіраванне, перанакіроўванне, перанізванне, перапяразванне, перараразмяркоўванне, перарасоўванне, пераспеўванне, пераспрэчванне, перасупоньванне, перахалоджванне, перахітроўванне, перашчыкванне, правошчванне, прагнойванне, прамошчванне, прасмальванне, пратлушчванне, пратрачванне, прафарбоўванне, прахукванне, прашнуроўванне, прашпаклёўванне, прашпігоўванне, прыарканьванне, прыбольшванне, прывёрстванне, прывэнджванне, прывязванне, прыгарванне, прыгашванне, прыгнойванне, прыкамандзіроўванне, прыклейчванне, прылабуньванне, прыладкоўванне, прылізванне, прылыганне, прыляпванне, прымайстроўванне, прымалёўванне, прынітоўванне, прыпалохванне, прыпілюкванне, прыпіханне* і *прыпіхванне, прыпужванне, прыпырхванне, прыраўноўванне, прыразоўванне, прырысоўванне, прысабачванне, прысарамачванне, прыскавытванне, прыспеўванне, прыстрашванне, прысюсюкванне, прытальванне, прытаргоўванне, прыторкванне, прыхільванне, прыхрапванне, прыцыкванне, прычапуранне, прышліфоўванне, пэканне, разбалабоньванне, разбараноўванне, развэдзгванне, разгадоўванне, разгірачванне, разгрэбванне, раздраконьванне, разжэньванне, раззвоньванне, разлупліванне, размантачванне, размяжджульванне, раскалмачванне, раскірачванне* і *раскірэчванне, расклаўванне, распазычанне* і *распазычванне, распатроньванне, распікіроўванне, рассалоджванне, рассупоньванне, расталкоўванне, растарэкванне, растоўкванне, растрывожванне, расфуфырванне, расхвостванне, расхляпешчванне, расхрыстванне, расцалоўванне, расціпанне, расціскванне, расшкумачванне, расшэйгванне, сажмурванне, саскоўзванне, састрыганне, сашморгванне, скамечванне, скарабачванне, сплычванне, сплюсоўванне, сподванне, спырхванне, спэцканне, ссёрбванне, стрыножванне, суціханне, сфугоўванне, сынкаванне, сыпанне, сысоленне, такатанне, талаванне, талдычанне, таленьканне, танянёханне, таралаканне, тарашчанне, тахканне, трупанне, трыножанне, тукатанне, тулюлюканне, турчэнне, тылаванне, тыліліканне, удоўжванне, указванне, укалошванне, украпванне, уладжванне, ускалупванне* і *ускалупліванне,ускудлачванне, успіхванне, успляскванне, успяльванне, уссаджванне, устрывожванне, усцешванне, усчэпліванне, уталкоўванне, утрымоўванне, утульванне, ушмальцоўванне, ушпільванне* і *ушпіліванне, ушушкванне, ушчэмліванне, форсканне, хаўрусаванне, хеканне, хлабыстанне, хлюмзанне, хніпанне, хрупценне, хрыбусценне, хэканне, цалыпанне, цвіканне, цвірліканне, цвыргатанне, цёўканне, цісканне, цюханне* і *цуглянне, цыльгіканне* і *цыльканне, цыркуляванне, цюрлыканне, чычыканне, шаўканне, шкыранне, шлянне* і інш. Варта тут адзначыць, што пераважная большасць прыведзеных вышэй аддзеяслоўных назоўнікаў называюць дзеянне або працэс, але ёсць і значная колькасць такіх, якія называюць, акрамя дзеяння, і гукі (напрыклад, словы *крэхканне, кхыканне, хрупценне, хэканне, цвірліканне* і г.д.).

Назіраецца ў Слоўніку Ф.А. Піскунова адсутнасць некаторых слоў - дзеепрыметнікаў пры наяўнасці іх базавых дзеясловаў. Так, у рэестры ёсць дзеяслоў *заплюндраць* і адсутнічае дзеепрыметнік *заплюндраны*. Бывае і наадварот: у рэестры ёсць вытворны прыметнік *акаржэлы* і няма базавага дзеяслова *акаржэць*. Ёсць у рэестры вытворны адпрыметнікавы назоўнік *вугнявасць* і адсутнічае базавы ад'ектыў *вугнявы*. Прысутнічаюць у рэестры Слоўніка Ф.А. Піскунова аддзеяслоўныя назоўнікі *абабіранне, абручкаванне, лязгаценне, лямцаванне*, а іх базавых дзеясловаў - *абабіраць, абручкаваць, лязгаць, лямцаваць* - няма.

Непаслядоўна, няпоўна пададзены ў Слоўніку аднакаранёвыя лексічныя рады. Ёсць, скажам, у рэестры дзеяслоў (закончанага трывання) *выдаўжыць* і няма яго адпаведніка па трыванні *выдоўжваць*. Пададзены дзеясловы *вымардаваць, вымардавацца*, і няма слоў *вымардоўваць, вымардоўвацца, вымардоўванне*. Ёсць у рэестры дзеяслоў *нараіць* і адсутнічаюць словы *нарайваць, нарайванне*. Дадзены ў Слоўніку дзеяслоў *развярэдзіць*, але няма неабходных моўных адзінак *развярэджваць, развярэджвацца, развярэджванне*. Ёсць слова *разлававаць* і няма ў рэестры лексем *разлазоўваць, разлазоўванне*. Паколькі ў рэестры ёсць словы *збурболены, збурболіць* ('змяшаць - пра вадкасць'), то павінны быць і ўтварэнні *збурбольваць, збурбольванне* і інш.

Непаслядоўна і няпоўна падаюцца ў Слоўніку Ф.А. Піскунова назвы жыхароў гарадоў, мястэчак, раёнаў і інш. Так напрыклад, знаходзім у гэтай лексікаграфічнай працы словы *крупчанцы* і *крупчане* (да Крупкі) і няма тут назвы *зальвяне* ('жыхары Зэльвы, Зэльвенскага раёна') і інш.

У "Вялікім слоўніку беларускай мовы" Ф.А. Піскунова ёсць тры лексічныя дадаткі: дадатак 1 - "Населеныя пункты і некаторыя гідраграфічныя аб'екты Беларусі" (сс. 1133-1147), дадатак 2 - "Краіны свету" (сс. 1148-1149) і дадатак 3 - "Геаграфічныя назвы свету" (сс. 1150- 1156).

Заўважаецца непаўната падачы матэрыялу ў дадатку "Геаграфічныя назвы свету". Так, у Слоўніку знаходзім словы *Татарстан, Каракалпакія, Карэлія, Башкірыя, Бурацыя, Чукотка, Тыва, Адыгея, Хакасія* і інш., і адсутнічаюць тут чамусьці назвы *Комі (Рэспубліка Комі), Мардовія, Мары Эл* (былая назва *Марыйская Аўтаномная Рэспубліка), Калмыкія, Інгушэція, Паўночная Асецiя* (і *Асецінская Рэспубліка), Карачаева-Чэркесія, Удмуртыя, Чувашыя, Чэчня, Ханты-Мансійская аўтаномная акруга, Эвенкія, Эвенкійская аўтаномная акруга, Рэспубліка Алтай* і інш.

Не знайшлося месца ў "Вялікім слоўніку беларускай мовы" Ф.А. Піскунова слову *Нахічэвань*.

Геаграфічныя назвы *Чорнае мора, Чырвонае мора, Жоўтае мора* і інш. у Слоўніку ёсць, а назваў *Белае мора, Грэнландскае мора, Баранцава мора, Мора Сулавесі, Заходняя Дзвіна* і інш. няма.

Адсутнічаюць у Слоўніку Ф.А. Піскунова і цэлы шэраг апелятыўных шырокаўжывальных слоў. Гэта моўныя адзінкі *аборынка, вароцеткі, балматня* (ад *балматаць*), *асядлоўваць* (ёсць у РБС-82), *бязуліць, загазоўваць, таркаваць, нармалізоўваць, невераемнасць, прыватызоўваць, удратоўваць* і інш.

Няма на сваім алфавітным месцы слова *парталан*, хоць яно ёсць у артыкуле *партулан*. У Слоўніку ёсць *паўгурка*, а асноўнага варыянта - *паўагурка* - няма.

Трапілі ў Слоўнік і некаторыя словы, няправільныя сваім утварэннем. Так, у Слоўнік уключана слова *абдзьмуханне*, а патрэбны толькі словы *абдзьмухванне* і *абдзіманне*. Пададзена ў Слоўніку слова *адскрабаны* замест правільнага *адскрэбены* (апошняе ёсць у рэестры). Пададзена ў рэестры *ляпенне*, а патрэбна *ляпленне*. Пададзены дзеяслоў *улуніць*, а патрэбна *улунець*. Замест *баўар* у Слоўніку Ф.А. Піскунова бачым *баўер*. Ад геаграфічнай назвы Друя (мястэчка ў Браслаўскім раёне) утвараецца прыметнік *друйскі*. У Слоўніку ж Ф.А. Піскунова бачым: *друеўскі*.

Слова *лупы* тлумачыцца як 'вялікія непрыгожыя зубы'. Тут, відаць, ідзе гаворка пра губы, а не пра зубы.







Сустракаюцца ў рэестры гэтага слоўніка, на жаль, і некаторыя русізмы. Напрыклад: *высвабаджэнне, крапіцца* ('мацавацца'), *крапіць* ('мацаваць'), *падарак, пііліць, процііспутнікавы, путаніна, разарый, таяць.*

Вышэй намі было адзначана, што многія моўныя адзінкі ў Слоўніку Ф.А. Піскунова забяспечаны дэфініцыямі. Але пры шматлікіх словах падобныя тлумачэнні адсутнічаюць, а яны, як нам думаецца, павінны быць.

Патрэбных дэфініцый мы не бачым, напрыклад, пры словах *акравок, бакаць, карэліць, клуміць, люць, напаяўку, нячывіць, пліндраваць, плюмкаць, тухтаць, увазгольваць, угалоджваць, члакаць, шванкаваць* і інш.

Праблема аманіміі. Лексічныя амонімы маюць поўнае гукавое супадзенне ва ўсіх формах, а таксама маюць аднолькавае напісанне, напрыклад *абчапляць*[1] *зак.* -яю, -яе (абвешаць чым-н.) і *абчапляць*[2] *незак.* -яю, -яе (абчэпліваць); *рысь*[1] *заал., Т* - ссю і *рысь*[2], *Т* - ссю (*бег*). Калі ж словы маюць поўнае гукавое супадзенне, але не супадаюць графічна (першае пішацца з малой літары, а другое з вялікай), то такія словы амонімамі не лічацца і падаюцца як асобныя словы без выдзялення іх як амонімы. У Слоўніку ж Ф.А. Піскунова аформлены як амонімы наступныя пары (або больш як два словы): *буда*[1] і *Буда*[2]; *геркулес*[1] і *Геркулес*[2]; *багач*[1] і *Багач*[2]; *кант*[1] і *Кант*[2]; *Кох*[1] і *кох*[2]; *кулон*[1] і *Кулон*[2]; *ламберт*[1] і *Ламберт*[2]; *лі*[1], *лі*[2] і *Лі*[3]; *ліга*[1] і *Ліга*[2]; *ляля*[1] і *Ляля*[2]; *марс*[1] і *Марс*[2]; *мус*[1], *мус*[2] і *МУС*[3]; *ньютан*[1] і *Ньютан*[2]; *паскаль*[1] і *Паскаль*[2]; *рама*[1] і *Рама*[2]; *Спас*[1] і *спас*[2]; *тор*[1] і *Тор*[2] і г.д.

Сустракаюцца ў Слоўніку Ф.А. Піскунова і выпадкі правільнай падачы такога роду лексікі: *ліра* (муз.) і *Ліра* (сузор'е). Ёсць у гэтым слоўніку выпадкі, калі першым паказана слова, што пішацца з вялікай літары: *Вікторыя міф.* і *вікторыя*; *Лета*, і *лета*; *Мі* і *мі*, а павінна быць наадварот.

Пры знаёмстве са Слоўнікам Ф.А. Піскунова звяртае на сябе ўвагу і такая акалічнасць, што ў рэестры стаяць побач аднолькавыя словы, двойчы падаецца адно і тое ж слова. Такіх выпадкаў у гэтым даведніку налічваецца значная колькасць. Напрыклад:

*граф, РВ* - а; *мн.* графы, - аў і *(радзей)* графы, *РВ* - оў (*тытул*)

*граф мат.* - а; *мн.* графы, - аў

*дамаскін рэл., літ.*, - а (*помнік балгарскага пісьменства*)

*дамаскін тэкст., нескл.,* ж.

*дурань карт.*, - рня. М - рні (*гульня*)

*дурань РВ* - рня, *ДМ*- рню

*ложа,* - ы; *Р мн.* лож

*ложа, М* - ы; *Р мн.* - аў (*месца для спання; рэчышча*)

*мора, нескл., мн.*, адз. м. і ж. (*група народаў*)

*мора, М* - ы; *але ў назвах частак ландшафту Месяца* Мора, *М* - ы (*напр.*: Мора Дажджоў)

*паўночнік бат.* - у

*паўночнік, РВ* - а

*послух,* - у

*послух, РВ* - а

*рында мар.*, - ы, *ДМ* - дзе; *Р мн.* - д

*рында,* - ы, *Т*- ам, *М*- дзе; *РВ мн.* - аў

*цаца дзіц.* - ы; *Р мн.* цац (*цацка*)

*цаца аг.*: м. *ДМ* -у, *Т* - ам; ж. *ДМ* - ы, *Т* -ай / -аю; *РВ мн.* цац і цацаў

Яўныя амонімы з прыведзеных вышэй слоўных пар павінны і афармляцца як аманімічныя адзінкі, а полісемантычныя моўныя адзінкі павінны зводзіцца ў адзін слоўнікавы артыкул, падавацца як адно слова. Прысутнасць жа двух аднолькавых слоў у адным лексікаграфічным выданні - гэта нонсэнс.

Заўвагі адносна націску ў Слоўніку Ф.А. Піскунова. Адзначаюцца выпадкі няправільнай пастаноўкі націску. Так, у гэтым слоўніку бачым: *акрыліцца, акрыліць* замест *акрыліцца, акрыліць*; *безнайменны*, а ў выразе -*безнайменны лік; бувальніца*, а трэба *бувальніца*; *гамзанне*, а трэба *гамзанне* (ад *гамзаць*); *гноеадстойнік*, а трэба *гноеадстойнік*; *лубініна*, а трэба *лубініна*; *ляканне*, а трэба *ляканне* (ад *лякацца, лякаць*); *Пліса*, а трэба *Пліса*; *плiскі*, а трэба *пліскі*; *прыродазнаўча-гістарычны*, а трэба *прыродазнаўча-гістарычны*; *псяюха*, а патрэбна *псяюха*; *Пушчавік*, а трэба *Пушчавік*; *сярод*, а патрэбна *сярод*; *Цвеціно*, а трэба *Цвеціна*; *Шаркоўшчына*, а трэба *Шаркаўшчына*. У Слоўніку бачыш: *пахапліва, пахапліві*, але *пахаплівасць*; *пуэртарыканец*, але *пуэртарыканка*. Слова *святлоправод* у рэестры памылкова пададзена ў форме *святлапровад.* У некаторых словах зусім адсутнічае націск у слоўніку (гл. словы *гіпертэнзія, забрузнуць, легліца, новапамерлы, паджвіраваць, Пантэон, Егіпет, Францыя*). Часам адсутнічае неабходны націск у адной з частак слова, якое пішацца праз дэфіс. Напрыклад: *дыялектнапрастамоўны, пэйджынг-апаратар, цэнтральна- чарназёмны*. Заўважаюцца выпадкі адсутнасці націску ў формах змянення слова (гл. словы *венгр, галасьба, дуля, цэўка* і інш.). Бываюць у гэтым слоўніку выпадкі прысутнасці ў слова лішняга націску: *акустаэлектронны.*

Акрамя ўласна слоў, рэестравымі адзінкамі ў Слоўніку Ф.А. Піскунова з'яўляюцца некаторыя прэфіксы і часткі ў складаных словах (*бі..., бія..., авія..., вода..., леса..., лёда..., механіка-... і механічна...* і г.д.). Некаторых падобных частак мы ў дадзеным слоўніку не знаходзім (адсутнічаюць у рэестры *дрэва..., ікана... і ікона..., многа... і мнага..., шмат...* і інш.). Нярэдка такія часткі напісаннем супадаюць з першапачатковай формай рэестравага слова. У Слоўніку Ф.А. Піскунова гэтыя рэестравыя пары афармляюцца парознаму. У адных выпадках першымі паводле алфавіту ідуць поўныя словы, а за імі часткі са шматкроп'ем, у другіх наадварот. Напрыклад:

*бізань*
*бізань...*
*бомба*
*бомба....*
*бактэрыя...*
*бактэрыя*
*бом-...*
*бом*

Першым у алфавітным размяшчэнні такіх пар павінна быць поўнае слова.

У прадмове да Слоўніка Ф.А. Піскунова заяўлена, што словы ў слоўніку размешчаны ў строгім алфавітным парадку. Факты ж, на вялікі жаль, сведчаць, што ў многіх месцах алфавітны парадак парушаны. Прывядзём такія прыклады:

абвесціць
абвесціцца
Андалусія
Андалузскія горы
Кіёта
Кіеў
Лясное Возера
Лясное
мізэрнік
мізэрны
мізэрніца
п'янотна
п'янота
цэлебрацыя
цэлебраванне
Японія
Ямайка

Далёка не на сваім месцы ў алфавітным парадку змешчаны ў Слоўніку моўныя адзінкі *Вулька, Вулька-Аброўская, Кёльн, Навасёлкі.*

Не вытрыманы алфавітны парадак размяшчэння слоў у Слоўніку і на с. 150 у наступным слупку:

*бяленне*
*бялёса-шэры*
*бялёсенькі*
*бялесы*
*бялецца*
*бялець*
*бялёк*
*бялёсавокі*
*бялёсы*

Слова *гравэ* ў алфавіце апынулася на 33 пазіцыі вышэй ад свайго месцазнаходжання (павінна стаяць перад моўнай адзінкай *гравюра*).

Слова *Рыўера* паводле алфавіту трапіла зусім на іншую старонку ад свайго належнага месца (на с. 871, а павінна размяшчацца на с. 873, пасля слова *рытэнута*).

Пры строгім размяшчэнні слоў у алфавітным парадку мае значэнне націск. Пры аднолькавым напісанні слоў і з адрозненнем іх толькі месцам націску першым павінна ў лексікаграфічным даведніку займаць месца слова, у якім націск стаіць над галоснай у ранейшым складзе, чым у наступным слове. У Слоўніку ж Ф.А. Піскунова часта назіраецца адваротная карціна. Напрыклад:

*галенне*
*галенне*
*грудны*
*грудны*
*катар*
*катар*[1]
*катар*[2]
*прыкутаць*
*прыкутаць*
*раніць*
*раніць*[1]
*раніць*[2]
*скутацца*
*скутацца*
*скутаць*
*скутаць*
*тратнік*
*тратнік*
*ФІФА*
*фіфа*[1]
*фіфа*[2]
*чужына*
*чужына*
*Крывічы*
*Крывічы*

На алфавітнае размяшчэнне слоў у слоўніку ўплывае і дэфіс (-). Слова, якое пішацца без дэфіса, павінна стаяць у алфавітным парадку вышэй за слова, што мае на пісьме злучок. У Слоўніку ж Ф.А. Піскунова можна сустрэць наступнае:

*інда-пакістанскі*
*індапакістанскі*
*ракета-носьбіт*
*ракетаносьбіт*
*чырвона-цагляны*
*чырвонацагляны*

У гэтым лексікаграфічным даведніку ёсць і наступныя прыкрыя недагляды. Так, дзеяслоў *аблупежыцца* забяспечаны граматычнай паметай *незак.* (незаконачанае трыванне), а тут патрэбна пазнака *зак.* Пры прыметніку *будзёнаўскі* ў дужках ёсць тлумачэнне *ад Будзёны*, а патрэбна тут: *ад Будзённы.* Ёсць і такое: *кахля* гл. *кахля* (замест гл. *кафля*) і г.д.

Зробленых у гэтым аглядзе крытычных заўваг магло б і не быць, ці яны маглі б быць зведзеныя да мінімуму, каб лексікаграфічная праца Ф.А. Піскунова была навукова адрэдагавана спецыялістам-мовазнаўцам.

Зроблены намі крытычны агляд "Вялікага слоўніка беларускай мовы Ф.А. Піскунова толькі ў зусім нязначнай ступені можа выклікаць нейкае сумненне ў вартасці і важнасці праробленай Фёдарам Антонавічам тытанічнай, агромністай працы па лексікаграфічнай сістэматызацыі фактычнага матэрыялу беларускай нацыянальнай мовы. Падзвіжніцтва Ф.А. Піскунова заслугоўвае самай высокай ацэнкі.

Прарэцэнзаваны тут "Вялікі слоўнік беларускай мовы Ф.А. Піскунова, а таксама такія фундаментальныя лексікаграфічныя працы пачатку XXI стагоддзя, як: "Граматычны слоўнік дзеяслова". Мн., 2007 (рэдактары А.І. Падлужны і В.П. Русак), “Граматычны слоўнік назоўніка". Мн., 2008 (рэдактары А.Я. Міхневіч і В.П. Русак), "Граматычны слоўнік прыметніка, займенніка, лічэбніка, прыслоўя". Мн., 2009 (рэдактар В.П. Русак), "Слоўнік беларускай мовы". Мн., 2012 (рэдактары А.А. Лукашанец і В.П. Русак), "Слоўнік фразеалагізмаў беларускай мовы" ў 2 тамах І.Я. Лепешава. Мн., 2008, "Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы” ў двух тамах М.П. Пазнякова. Мн., 2012 уносяць неацэнны ўклад у вывучэнне сучаснай беларускай літаратурнай мовы на мяжы двух стагоддзяў адносна яе лексіка- фразеалагічных, граматычных і выяўленчавобразных аспектаў.

***Мікалай Крыўко***,
*вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.*

# Фестываль AD.NAK! узнагародзіў пераможцаў

Вялікі фестывальны дзень Трэцяга фестывалю беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі AD.NAK! прайшоў 5 ліпеня ў Менску ў Міжнародным адукацыйным цэнтры ІВВ.

Фестывальны дзень распачаўся з Адукацыйнай праграмы, , на якой выступілі прафесійныя рэкламісты і піярспецыялісты.













- Тыя веды, якія атрымалі ўдзельнікі фестывалю падчас адукацыйнай праграмы, можна назваць незамяняльнымі. Беларускамоўная рэклама знаходзіцца на стартавым этапе развіцця. Але Трэці фестываль AD.NAK! паказаў, што яе патэнцыял велізарны. Каб узровень айчынных рэкламістаў павышаўся больш імкліва, неабходна вучыцца ў прафесіяналаў, - адзначыў кіраўнік рэсурсу Marketing.by, аднаго з суарганізатараў фестывалю, Сяргей Скараход.

Адкрыццё Цырымоніі ўзнагароджання Фестывалю AD.NAK! прайшло ва ўласцівай для дзеі шалёнай манеры - у гэтым годзе арганізатары разбурылі сімвалічную сцяну.

А вечарам адбылося ўручэнне прызоў пераможцам сёлетняга фестывалю AD.NAK! Адзначым, што, згодна з правіламі фестывалю, у кожнай намінацыі маглі быць прысуджаныя адно першае, два другія, тры трэція месцы, а таксама адно гран-пры. Месцы маглі і не прысуджацца, калі журы лічыла, што ўзровень працаў не адпавядае крытэрам фестывалю.

- Трэці Фестываль AD.NAK! паказаў, што цікаўнасць да беларускамоўнай рэкламы ў шырокім беларускім грамадстве і сярод прафесіяналаў расце. Пра гэта сведчаць і вынікі апытанняў: колькасць беларусаў, зацікаўленых у беларускамоўнай рэкламе, павялічылася з 37% (2009) да 55,6% (2012), - і павелічэнне колькасці беларускамоўных рэкламных працаў, пададзеных на фестываль. Пакуль беларускамоўная рэклама выкарыстоўваецца толькі, каб вылучыць тое ці іншае паведамленне сярод іншых мэсыджаў. Але мы верым, што рана ці позна беларуская мова стане мовай асноўнай камунікацыі. Штогод на Фестывалі AD.NAK! прысутнічаюць прадстаўнікі не толькі беларускіх, але і сусветных рэкламных агенцтваў. Гэта яшчэ раз пацвярджае цікаўнасць да стварэння рэкламы на беларускай мове. І мы лічым, што колькасць сапраўды крэатыўных беларускамоўных праектаў будзе павялічвацца, - адзначыла каардынатарка грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі", ініцыятара Фестывалю AD.NAK! Ніна Шыдлоўская.

Сёлетні Фестываль AD.NAK! стаў рэкордным па колькасці ўдзельнікаў і пададзеных працаў. Усяго ў сёлетнім фестывалі ўзялі ўдзел 330 работ ад 110 удзельнікаў. Летась на фестываль было пададзена 272 работы больш як ад 100 удзельнікаў, а ў 2010 годзе ў ім прынялі ўдзел 105 работ ад 59 удзельнікаў.

Дадатковую інфармацыю пра фестываль можна атрымаць на сайце ADNAK.BY, па тэлефонах: +375 29 755-14-34, +375 29 177-01-21, +375 25 978-97-87 альбо праз e-mail adnak@budzma.org.




№ 28 (1075) 11 ЛІПЕНЯ 2012 г. НАША СЛОВА

# ПАРАЎНАЛЬНЫ АНАЛІЗ ПАЛАЖЭННЯЎ КАНСТЫТУЦЫЙ КРАІН УСХОДНЯГА ПАРТНЁРСТВА І КАЗАХСТАНА АДНОСНА ДЗЯРЖАЎНАЙ І ІНШЫХ МОЎ

| КРЫТЭРЫІ ПАРАЎНАННЯ | БЕЛАРУСЬ | АЗЕРБАЙДЖАН | АРМЕНІЯ | ГРУЗІЯ | МАЛДОВА | УКРАІНА | КАЗАХСТАН |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Канстытуцыя 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі ад 24 лістапада 1996 г. і 17 кастрычніка 2004 г.) | Канстытуцыя ад 12 лістапада 1995 года (са зменамі ад 24 жніўня 2002 г.) | Канстытуцыя ад 5 ліпеня 1995 года | Канстытуцыя ад 24 жніўня 1995 года | Канстытуцыя ад 29 ліпеня 1994 года | Канстытуцыя ад 28 чэрвеня 1996 года (са зменамі ад 1 лютага 2011 г.) | Канстытуцыя ад 30 жніўня 1995 года (са зменамі і дапаўненнямі ад 7 кастрычніка 1998 г., 21 мая 2007 г. і 2 лютага 2011 г.) |
| **Колькасць дзяржаўных моў** | 2 - беларуская і руская | 1 - азербайджанская Дзяржава забяспечвае развіццё азербайджанскай мовы. | 1 - армянская | 1 - грузінская; у Абхазіі, акрамя грузінскай, дзяржаўнай з'яўляецца таксама абхазская | 1 - малдаўская (лацінскі правапіс) | 1 - украінская Дзяржава забяспечвае ўсебаковае развіццё і функцыянаванне ўкраінскай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця на ўсёй тэрыторыі Украіны. | 1 - казахская Урад, мясцовыя прадстаўнічыя і выканаўчыя органы абавязаны стварыць усе неабходныя арганізацыйныя, матэрыяльныя і тэхнічныя ўмовы для вольнага і бясплатнага авалодання дзяржаўнай мовай усімі грамадзянамі ў адпаведнасці са спецыяльным законам. |
| **Іншыя мовы са спецыяльным статусам** | - | - | - | - | - | - | Руская - можа афіцыйна выкарыстоўвацца нароўні з казахскай у дзяржаўных арганізацыях і органах мясцовага самакіравання. |
| **Палажэнні адносна ўжывання іншых моў** | Кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносін. | Дзяржава забяспечвае вольнае выкарыстанне і развіццё іншых моў, на якіх размаўляе насельніцтва. Кожны мае і ніхто не можа быць пазбаўлены права карыстацца роднай мовай. | Грамадзяне, якія належаць да нацыянальных меншасцяў, маюць права на развіццё сваёй мовы. | Грамадзяне з'яўляюцца роўнымі незалежна ад мовы і маюць права карыстацца сваёй мовай у прыватным жыцці і публічна. | Дзяржава прызнае і абараняе права на захаванне, развіццё і выкарыстанне рускай мовы і іншых моў, на якіх размаўляюць на тэрыторыі краіны. | Гарантуецца вольнае развіццё, выкарыстанне і абарона рускай і іншых моў нацыянальных меншасцяў. У Аўтаномнай Рэспубліцы Крым да кампетэнцыі аўтаноміі адносіцца забеспячэнне функцыянавання і развіцця як дзяржаўнай мовы, так і нацыянальных моў і культур у аўтаноміі. | Дзяржава клапоціцца пра стварэнне ўмоў для вывучэння і развіцця моў народа Казахстана. |
| **Магчымасць атрымання адукацыі на роднай мове, ужывання яе ў іншых сферах грамадскага жыцця** | Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання. | Кожны мае права на выхаванне, атрыманне адукацыі і заняткі творчай дзейнасцю на роднай мове. | - | - | Дзяржава забяспечвае ў адпаведнасці з законам права кожнага на выбар мовы навучання. | Грамадзянам, якія належаць да нацыянальных меншасцяў, у адпаведнасці з законам гарантуецца права на навучанне на роднай мове або на вывучэнне роднай мовы ў дзяржаўных і камунальных адукацыйных установах ці праз нацыянальныя культурныя таварыствы. | Кожны мае права на карыстанне роднай мовай, вольны выбар мовы зносін, выхавання, навучання і творчасці. |
| **Патрабаванні адносна ведання дзяржаўнай мовы вышэйшымі дзяржаўнымі службоўцамі** | - | - | - | - | Прэзідэнт | Прэзідэнт, суддзя, суддзя Канстытуцыйнага Суда | Прэзідэнт, старшыні Палат Парламента |
| **Мова судаводства** | - | Дзяржаўная або мова насельніцтва, якое складае большасць у адпаведнай мясцовасці. Удзельнікам судовага разбору спраў, якія не валодаюць мовай судаводства, гарантуецца права поўнага азнаямлення з матэрыяламі справы, удзелу ў судзе з дапамогай перакладчыка, выступлення ў судзе на роднай мове. | - | Дзяржаўная. Асобы, якія не валодаюць мовай судаводства, забяспечваюцца перакладчыкамі. У раёнах, дзе насельніцтва не валодае дзяржаўнай мовай, дзяржава забяспечвае вывучэнне дзяржаўнай мовы і вырашэнне пытанняў, звязаных з судаводствам. | Малдаўская. Асобы, якія не валодаюць малдаўскай мовай або не размаўляюць на ёй, маюць права знаёміцца з усімі дакументамі і матэрыяламі справы і звяртацца да суда праз перакладчыка. У адпаведнасці з законам судаводства можа адбывацца таксама на мове, якая з'яўляецца прымальнай для большасці яго ўдзельнікаў. | - | - |





# Паважаныя бацькі будучых ганаровых грамадзян нашага горада!!!

З кожным годам паступова павялічваецца колькасць крэатыўных беларусаў, якія жадаюць вучыць сваіх дзетак у школе і дзіцячым садку па-беларуску.

У мінулым навучальным годзе ў Гародні і раённых цэнтрах Гарадзенскай вобласці было створана 20 новых беларускіх класаў.

У юбілейны год класікаў беларускай літаратуры Я. Купалы і Я. Коласа ў Ленінскім раёне нашага горада ў дзяцячым садку №45 па вул. Сухамбаева, 5 (гэта паблізу пр. Будаўнікоў, вул. БЛК і вул. Горкага) адбываецца набор маленькіх дзетак у беларускую рознаўзроставую групу. На пачатак ліпеня па звестках начальніка аддзела адукацыі і адной з ініцыятарак стварэння беларускай групы Наталлі Кісель было 9 ахвочых бацькоў.

Калі Вы сапраўды хочаце каб Вашыя дзеткі ведалі нароўні з рускай і беларускую мову- Вы маеце рэальную магчымасць гэта зрабіць, напісаўшы заяву ў беларускую групу садка №45.

Адначасова працягваецца падача заяў ў першыя і другія класы з беларускай мовай выкладання. Базавымі беларускімі школамі на сёння з'яўляюцца СШ №32 (Ленінскі раён), СШ №34 (Кастрычніцкі раён), якія маюць досвед арганізацыі беларускага навучання.

Выдатнае валоданне, як мінімум дзяржаўнымі мовамі - гэта паказчык талерантнасці грамадства і еўрапейская норма для ўсіх дзяржаўных службоўцаў, а павага да роднай мовы - гэта павага і да сябе! Далучайцеся, калі ласка!

Сябры Гарадзенскай абласной рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны".

**Гародня**

Дзіцячы садок №45,
Адрас: вул. Сухамбаева, 5
Заявы прымаюцца ў Ленінскім аддзеле адукацыі па адрасе: вул. Савецкая, 14, каб. 253, тэлефон - 74-07-85.
Раб. тэл. выканаўца абавязкаў начальніка аддзела адукацыі гарвыканкама 72-04-83 (Пахомава Алена Аляксандраўна).
Тэлефон начальніка аддзела адукацыі гарвыканкама: 72-05-58 (Блажэй Сяргей Валер'янавіч).
Прадстаўнік бацькоўскага камітэта: МТС 298891853, Вэлкам - 293378574, эл. адрас: nas_hovea@mail.ru (Кісель Наталля).

СШ №32 (Ленінскі раён)
Тэлефон сакратара школы №32: 41-31-92 (Баярчык Гелена Вацлаваўна).
Завуч пачатковай школы №32: МТС- 787-43-54 (Багдановіч Валянціна Іванаўна), e-mail: Sh32@mail.grodno.by.
Ленінскі аддзел адукацыі: 72-10-65 (Аксана Сяргееўна).
Прадстаўнік бацькоўскага камітэта беларускіх класаў: 70-62-89, пасля 18.00 (Астроўская Аксана Барысаўна).

СШ №34 (Кастрычніцкі раён)
Тэлефон сакратара школы №34: 56-73-13
Завуч пачатковай школы №34: 56-25-46 (Вітко Алена Антонаўна), e-mail: Sh34oktroo@mail.grodno.by.
Тэлефон начальніка аддзела адукацыі гарвыканкама: 72-05-58 (Блажэй Сяргей Валер'янавіч).
Кастрычніцкі аддзел адукацыі: 52-05-66 (Аляксандра Ўладзіміраўна).
Тэлефоны гарадзенскай абласной арганізацыі ТБМ: Вэлкам- 943 -58-09 (Крой Аляксандр Ільіч), МТС-285-93-07 (Буднік Іван Фёдаравіч).

# У Германавічах прайшла канферэнцыя, прысвечаная Эміліі Плятар

Арганізатарам мерапрыемства была вядомая грамадская дзеячка Ада Райчонак. Праходзіла мерапрыемства ў культурна-асветніцкім цэнтры імя Язэпа Драздовіча. У працы канферэнцыі прынялі ўдзел 35 чалавек. Сярод удзельнікаў былі прафесар з Польшчы Гелена Глагоўская, доктар гістарычных навук з Гародні Вячаслаў Швед, яшчэ адзін гарадзенскі прафесар Андрэй Майсяёнак, дацэнт Ніна Стужынская, выдавец "Архе" Валер Булгакаў, выкладчык Віленскага ўніверсітэта Алесь Адамковіч, вядомыя мясцовыя краязнаўцы Вітольд Ермалёнак і Рыгор Шарыпкін і інш.

Краязнаўчыя канферэнцыі праводзяцца ў Германавічах Шаркаўшчынскага р-на штогод, як даніна памяці Міхасю Райчонку, які быў вядомым этнографам, літаратарам і краязнаўцам, але пражыў усяго толькі 26 гадоў. Тады яго маці Ада Райчонак паабяцала, што працягне справу свайго сына.

Па яе словах, яна даўно мела задуму правесці такую канферэнцыю. Два гады назад прайшоў мастацкі пленэр, прысвечаны Эміліі Плятар.

***Наш кар.***





# Моладзь - на Божым шляху

Каталіцкія ксяндзы ў розных рэгіёнах Беларусі вядуць глыбокую ўдумлівую працу з моладдзю і падлеткамі.

У гэтым мы пераканаліся падчас нацыянальнага духоўнага фэсту ў санктуарыі Маці Божае ў Будславе, які праходзіў пад дэвізам "Марыя - Маці Збаўцы" 6 і 7 ліпеня. У наступным годзе тут будзе адзначацца 400-годдзе прыбыцця абраза Божае Маці Будслаўскай.

2500 ўдзельнікаў з розных гарадоў прыбылі сюды сёлета.

Вялікая група моладзі прыйшла з Браслава. За 6 дзён яны пераадолелі пешшу 160 кіламетраў. Пілігрымы з Браслава ўдзельнічаюць у фэсце ужо ў 22 раз.

У Браслаўскай парафіі Нараджэння Божае Маці актыўна дзейнічае моладзевая група "Salvator". Заахвочваюць моладзь да дзейнасці ксяндзы Тадэвуш Дабравольскі і Станіслаў Мжыглуд.





- Сустрэчы моладзі рэгулярна адбываюцца пры касцёле.Тут ёсць старэйшыя, 30-гадовыя, якія гуртуюцца па сваіх інтарэсах, і школьнікі 15-17 гадоў. Такія сустрэчы суправаджаюцца спевамі, адарацыямі. Моладзь супольна разважае над тым значэннем, якое мае ў жыцці вера, імкнецца прыслухацца да свайго паклікання, - распавёў удзельнік пілігрымкі Ян з Браслава. - Пілігрымкі нас аб'ядноўваюць і фізічна загартоўваюць. Ёсць людзі, якія прызвычаіліся падарожнічаць сем'ямі. Дзеці з бацькамі змалку прывыкаюць хадзіць ў пілігрымкі, адчуваць сябе здаравей сярод цудоўнай прыроды, знаёмяцца з багатай хрысціянскай спадчынай роднага краю. Самаму маленькаму ў нашай групе ўдзельніку - 4 гады і 9 месяцаў.

- Мы спыняліся ў такіх мясцінах як Ёды, Шаркаўшчына, Радзюкі, Юдзіла,- падзялілася ўражаннямі Ганна з Браслава.

- Айцы і сёстры салізеяне ў Смаргоні, Дзятлаве і іншых месцах вядуць евангелізацыйныя заняткі з моладдзю на працягу года і падчас пілігрымак, - паведаміў ксёнд Ян Огар (SDB). Праводдзяцца тэматычныя рэкалекцыі, канферэнцыі, ідзе праца ў групах.

Пілігрымка ў Будслаў была таксама зладжана так, што ў час прыпынкаў праводзіліся размовы і гутаркі на духоўныя тэмы. Мы знаёмім моладзь з гісторыяй жыцця айца Яна Боскі, заснавальніка таварыства салезіянаў, разважаем разам над тым, якімі ён прынцыпамі кіраваўся ў жыцці, як ён пераадольваў нягоды, якое значэнне для яго мела Таінства Еўхарыстыі. Увага надаецца таму, каб прывіць любоў да духоўнай і фізічнай працы, адказнасці .

Людзі ў населеных пунктах сустракалі нас цёпла і ветліва, яны ўбачылі столькі светлых твараў маладзёнаў і радаваліся разам з намі.

Гэта сведчанне таго што, вера нясе натхненне, што моладзь можа з 'ядноўвацца і праводзіць час без алкаголю, можа імкнуцца ажыццяўляць добрыя мэты, - распавёў ксёндз Ян Огар.

- Сёстры Святой Ядвігі ў Слуцку, Асіповічах і Крупках праводзяць катэхізацыю ў сваіх парафіях, займаюцца выхаваннем дзяцей і моладзі, вядуць апеку над хворымі, - падзяліліся прадстаўніцы супольнасці.

- Сёстры са Свята-Елізавецінскага манастыра пад Менскам падзяляюць радасць сваіх братоў і сёстраў у веры, - адзначыла сястра Вольга.

300 чальцоў дэлегацыі з Менска, 220 - з Маладэчна, 150 прадстаўнікоў з Гудагая, 250 - з Нарачы, 150 - з Вілейкі, ў рознакаляровых кашулях напаўнялі спевамі, радасцю і бадзёрасцю наваколле.

Удзел маладых пілігрымаў у Святой Імшы на беларускай мове, еднасць сотняў вернікаў у супольнай малітве да Божае Маці за Беларусь і за сваіх родных будуць несці святло і любоў у сем'і, натхняць да самаўдасканалення.

Чыстая, без ніводнага воблачка месяцная ноч, асветленая тысячамі знічак, урачыстая святочная прэсія каля касцёла надоўга застануцца ў душах пілігрымаў.

***Эла Дзвінская,***
*фота catholic.by.*

# Беларуская мова і футбол

У Салігорску ў суботу прайшоў хіба не цэнтральны матч лета. Сустракаліся "Шахцёр" і БАТЭ. У выпадку перамогі салігорскі клуб дагнаў бы барысаўцаў у турнірнай табліцы.

Нягледзячы на 30-градусную спёку, каманды выдалі найцікавейшую гульню. "Шахцёр" адкрыў лік: на 20-й хвіліне вызначыўся Дзмітры Асіпенка. На 73-й Эдгар Аляхновіч з-за межаў штрафной пригожым ударам у дзявятку лік зраўняў - 1:1.

Барацьба не спынялася да 94-й хвіліны, прычым пры пазіцыйнай перавазе БАТЭ "Шахцёр" агрызаўся і меў некалькі момантаў.

Адрыў БАТЭ ў 3 балы захаваўся (37 супраць 34), прычым у Барысава на гульню меней.

Зазначым таксама два моманты: БАТЭ згуляў першы раз унічыю ў гэтым чэмпіянаце (у каманды цяпер 12 перамогаў, 1 нічыя і 3 паразы), а трансляцыю па канале "Беларусь-2" эмацыйна каментавалі па-беларуску Павел Баранаў і Дзмітры Герчыкаў.

І трэба адзначыць, што каментавалі не толькі эмацыйна, але і бегла, без усялякіх заціжак маўлення, без русізмаў. Адчувалася, што ідзе не ўнутраны пераклад з рускай на беларускую, а думкі і, адпаведна, словы ды фразы адразу фармуюцца па-беларуску. Гэта было нязмушана, прыгожа. Прыгожы каментар да прыгожай гульні. Хацелася і глядзець і слухаць. Пры такіх каментатарах і папулярнасць самога футболу вырасце, бо аматары будуць чакаць не толькі гульні, а і прыгожай мовы пры ёй. Гармонія мае месца быць.

***Наш кар.***





Сёлета спаўняецца 235 гадоў з дня народзінаў **Яна Юзафавіча Ходзькі Барэйкі**, псеўданім Пан Ян са Свіслачы (24.06.1777-10.11.1856). Лічу з гэтай нагоды вартым падзяліцца звесткамі пра яго з чытачамі "Нашага слова".

# Шляхціц з-над Сэрвачы

**Старадаўні шляхецкі род**

Ходзькі Барэйкі-старадаўні шляхецкі род. Бытуюць дзве легенды, як узнiклi прозвішчы іх роду. Быццам прозвішча Барэйка бярэ пачатак ад легендарнага сярэднявечнага рыцара, які ў часы Гедзіміна ў кулачным бai перамог (пабароў) татарскага асілка. Хадкевіч Іван прыгадвае легенду аб паходжанні прозвішча Ходзька. Быццам кіеўскі баярын Ходар Юр'евіч, які вельмі хутка хадзіў, атрымаў мянушку Ходзька, якая стала позвішчам. Ходзька ўпамінаецца ў адной з грамат вялікага князя Казіміра Ягелончыка ў 1443 годзе, у 1446 годзе вялікі князь Свідрыгайла Альгердавіч "за верную службу " падарыў Ходзь-



*Герб Касцеша*

ку маёнтак Мілоўшы. У XIX стагоддзі Ходзькі жылі ў Віленскім, Трокскім, Свенцянскім, Завілейскім, Ашмянскім. паветах і ў Вільні. Ходзькі не належалі да заможных, яны пераважна былі адміністратарамі чужых маёнткаў або арандавалі невялікія фальваркі, знаходзіліся на дзяржаўнай службе, але іх шляхецкая радавітасць ніколі не падвяргалася сумненню. Як шляхта яны мелі шырокія асабістыя і палітычныя прывілеі, права ўласнасці на маёнтак, свабоду міграцыі, ільготы ад падаткаў, права на пажыццёвую перадачу звання і пасады, права на павышэнне па службе і іншыя.

**Першыя крывіцкія Ходзькі Барэйкі**

Першым з Ходзькаў, хто пасяліўся ў Крывічах, быў Ходзька Барэйка Юзаф (1728-01.24.1782) з жонкай Канстанцыяй з Буйніцкіх. Ходзька Барэйка Юзаф з'яўляўся Прэзідэнтам земскага суда Ашмянскага павету і меў судова-адміністрацыйную і паліцэйскую ўладу на даволі вялікім абшары. Да Ашмянскага павету ў той час адносіліся часткі сучасных Ашмянскага, Докшыцкага, Глыбоцкага, Вілейскага Маладзечанскага, Смаргонскага, Астравецкага і Мядзельскага раёнаў. Маёнтак у мястэчку Крывічы Юзаф атрымаў у спадчыну ад свайго сваяка трокскага падкаморага Андрэя Укольскага, якому частка Крывічоў дасталася пасля смерці бяздзетнага полацкага ваяводы вялікага гетмана ВКЛ Януша Кішкі (1568-1654) як эксдывізія на карысць крэдытораў.

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай успыхнула паўстанне пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі. Пад штандары "вольнасці, цэласнасці, незалежнасці" у красавіку 1794 года стаў брат Юзафа маёр Людвік Ходзька Барэйка (1769-1843), а, можа, і 17-гадовы сын Ян. У біяграфіі Яна Ходзькі нідзе не пазначана, што і ён прымаў удзел у паўстанні 1794 года, але ўскосныя намёкі маюцца. У яго аповесці, якая ўключае шэраг аўтабіяграфічных звестак, падрабязна апісваецца, як яго сябар 4 лістапада 1794 года ўдзельнічаў у бітве ў прыгарадзе Варшавы Празе, быў там паранены, узяты Суворавым у палон і дастаўлены ў Ракаў, а аўтар пераплыў Віслу і тайком вярнуўся на радзіму. Можа гэта і домысел пісьменніка, але Ян Ходзька сапраўды ў 1794 годзе пакінуў працу ў Ашмянах, а ўжо ў 1795 годзе ўладкаваўся ў Паставах. Можа ў мэтах канспірацыі памяняў месца працы?

Паўстанне пацярпела паразу. Людвік не паказваўся ў Крывічах, навісла пагроза секвестра маёнтка і маёмасці Ходзькаў. Толькі ўступленне ў 1796 годзе на царскі пасад Паўла 1 і амністыя паўстанцам уратавалі Ходзькаў ад разарэння.

**Жыццёвы шлях Яна Ходзькі Барэйкі**

Пісьменнік, драматург, тэатразнавец, грамадскі дзеяч, удзельнік культурна-асветнага жыцця Беларусі і Літвы, ганаровы сябар Віленскага ўніверсітэта Ян Ходзька Барэйка нарадзіўся 24 чэрвеня 1777 года ў мястэчку Крывічы Вілейскага павету Менскага ваяводства (зараз Мядзельскі раён Менскай вобласці) ў сям'і патомнага мясцовага шляхціча герба "Касцеша" Юзафа і Канстанцыі з Буйніцкіх. Першапачатковую адукацыю атрымаў дома ад гувернёраў, потым вучыўся ў Крывіцкай школе ордэна трынітарыяў і, нарэшце, закончыў Віленскую Галоўную школу Вялікага Княства Літоўскага.



*Ян Ходзька Барэйка*

Бацька рана памёр. Каб пазбегнуць апякунства пры вядзенні гаспадаркі, юнак звярнуўся да караля Станіслава Аўгуста з хадайніцтвам аб прызнанні яго паўнагадовым. Ужо ва ўзросце 16 гадоў Ян быў абраны цывільна-вайсковым камісарам Ашмянскага павету. У выніку Гарадзенскі сойм ў 1794 годзе прызнаў яго паўнагадовым.

Ян Юзафавіч прайшоў усе ступені шляхецкай кар'еры, займаючы пасады ў юстыцыі. У 1795 годзе ўладкаваўся працаваць асэсарам суда ў Паставах, потым там жа стаў прцаваць падсудкам.

У 1808 годзе Яна Ходзьку прызначылі падкаморым Вілейскага павету. У яго абавязкі ўваходзіла вырашэнне памежных спрэчак паміж уладальнікамі зямлі. У 1811 годзе заняў пасаду Прэзідэнта земскага Трыбуналу па Менскай губерні. Яго кватэра ў Менску стала сапраўдным асяродкам культуры, дзе па аўторках збіралася шмат гасцей. Ён арганізоўваў канцэрты, пастаноўкі, выступаў у якасці рэжысёра, аўтара і выканаўцы акцёрскіх роляў.

Летам 1812 года напалеонаўскія салдаты ўступілі ў Крывічы. Ян Ходзька, разлічваючы на аднаўленне Напалеонам дзяржаўнасці Беларусі ў межах Рэчы Паспалітай, як і многія прадстаўнікі шляхты, падтрымаў Напалеона. У гэты час ён напісаў камедыю "Вызваленая Літва або Пераход Нёмана". Французаў выганяюць з Крывіччыны. Яну Ходзьку даводзіцца некаторы час хавацца ад царскіх уладаў. Пасля абвяшчэння амністыі прыхільнікам Напалеона Ян Ходзька зноў пачаў актыўна ўдзельнічаць у грамадскім жыцці. Яму даручылі быць упаўнаважаным камісіі радзівілаўскай масы-велізарнейшай спадчыны найбагацейшых магнатаў Беларусі і Літвы. Ён атрымаў вялікі аклад, у карэце, запрэжанай шасцярыком, са шматлікімі лакеямі раз'язджаў паміж Вільняй і Менскам, разам з мясцовай арыстакратыяй ладзіў літаратурныя вечары, тэатральныя прадстаўленні, на якіх ставіліся і яго п'есы. У дадатак яго прызначылі ганаровым наглядальнікам Дзісненскага павету і сакратаром Дабрачыннага таварыства ў Менску. Ян Ходзька ўступае ў друкарскае таварыства, друкуецца ў часопісах "Дзённік Віленскі", "Рубон" і інш. Ён слыў агульнавядомым масонам, адным з арганізатараў масонскіх ложаў у Менску і Вільні, быў заснавальнікам ложы Сакрата, з'яўляўся вялікім магістрам ложы "Паходня Поўначы" ў Менску. У гэты ж час Ян Ходзька наладжвае сувязі з перадавымі прадстаўнікамі Віленскага ўніверсітэта, з'яўляецца яго ганаровым сябрам, супрацоўнічае з сябрамі таварыства "Шубраўцаў" (Літаратурна-грамадскае таварыства ліберальна-асветніцкага кірунку, якое складалася з прадстаўнікоў інтэлігенцыі і вяло барацьбу супраць цемрашальства, прапагандавала асвету і гуманізм.

Пачынаючы з 1819 года Ян Ходзька захапіўся праблемамі асветы ў краі. У віленскім часопісе "Гісторыя дабрачыннасці" (1820) апублікаваў праграмны даклад аб задачах чатырохгадовай школы для сялянскіх дзяцей. Галоўны акцэнт рабіў на маральныя навукі і рэлігію, рэкамендаваў знаёміць вучняў з новымі тэхналогіямі апрацоўкі зямлі, жывёлагадоўлі, будаўніцтва. У 1821 годзе яго назначылі інспектарам Віленскай навучальнай акругі, якая ахоплівала школы Літвы, Магілёўскай і Віцебскай губерняў. У гэты перыяд Ян піша аповесць "Пан Ян са Свіслачы, вандроўны крамнік", (1821), дзе развіў ідэю народнай школы і асветы. У 1822 годзе Школьны камітэт Віленскай навучальнай акругі прапанаваў яму афіцыйна выкласці свае погляды на сельскую школу, але чыноўнікі Школьнага камітэта не далі згоды нават на двухгадовае навучанне дзетак, яны сцвярджалі, што вясковым дзецям дастаткова нядзельных "воскрэсных" заняткаў па садаводству, хатняй гаспадарцы, каб "не страцілі навыкаў свайго саслоўя"

У далейшым Ян Ходзька прымае удзел у падпольным польскім Патрыятычным Таварыстве, Пасля працэсу над філаматамі прыйшла чарга пераследвання Патрыятычнага таварыства. У 1926 годзе Яна Ходзьку арыштавалі. Пакуль цягнулася следства, знаходзіўся ў Петрапаўлаўскай цвердзі, а потым атрымаў 2 гады турэмнага зняволення (1826-1827). У 1828 годзе яго высылаюць з Беларусі: спачатку ў Пецярбург, затым у Варонеж, Вятку і Пермь пад паліцэйскі нагляд. З высылкі яму ўдалося ўцячы на Радзіму. Тут ён пpыняў удзел у паўстанні 1830-1831 гадоў. За ўдзел у паўстанні яго разам з сынам Іосіфам саслалі на Урал.

Вярнуўся адтуль у Крывічы ў 1834 годзе, маючы 57 гадоў. Яго маёнтак аказаўся апустошаным. Тут жылі ў нястачы ягоная сляпая маці, жонка Клара і дачка Соф'я. З-за недахопу сродкаў Ходзькі прадалі свой маёнтак Крывічы. Ян разам з жонкай набылі невялікі фальварак Яноўшчыну. Дачка Соф'я выйшла замуж за Цітуса Навароўскага і пераехала ў яго маёнтак Раговічы. Паміpae зяць Цітус, і Ян з жонкай перабіраюцца да аўдавелай дачкі ў Раговічы. Тут ён працягваў займацца пісьменствам. Як сведку падзей нядаўняга мінулага яго запрашаюць наведаць гасцінныя дамы губернскага цэнтра. У 1851 годзе ў слотнае лістападаўскае надвор'е паехаў у Менск, захварэў і 10 лістапада памёр. Пахавалі "Яна са Свіслачы"ў Заслаўі на касцельным цвінтары

*"Быў Ян русым бландзінам, з тварам, можа, не так прыгожым у сваіх рысах, як значным. Яго вялікія блакітныя вочы мелі асаблівы выраз дабрыні і шляхетнасці. Характар ён меў жывы і лёгкі, а ветлівым абыходжаннем і надзвычай плаўным прамаўленнем запалоньваў і без перабольшання можна сказаць, нават зачароўваў усіх"*, - згадваў пра яго Дамінік Цэзары Ходзька.



*Крывіцкі касцёл, калятарамі якога былі Ходзькі*

**Грамадска-літаратурная дзейнасць Яна Ходзькі**

Як сябар віленскага літаратурна-грамадскага таварыства ліберальна-асветнікага кірунку "Шубраўцаў" ставаў мэту змагання з грамадскімі і асабістымі заганамі маральнага кшталту, асаблівае значэнне прыдаваў выкрыццю амаральных памкненняў, якія не асуджаліся афіцыйнымі прававымі актамі,- п'янству, азартным гульням, пахвальбой тытуламі продкаў, неабавязковасцю, непавагай да адукацыі. Асновай сацыяльна-маральнага прагрэсу лічыў асвету, узгадаваную на айчынным грунце і прыстасаваную для дабра народу. Адстойваючы роўнасць людзей перад законам, даводзіў неправамернасць падыходу да асветы як прывілеі толькі заможных пластоў грамадства, асуджаў недаацэнку карыснасці навукі, ведаў, лічыў, што правільнае навучанне можа даць толькі добрая школа. Ён крытыкаваў абмежаванасць хатняй адукацыі, недахопы езуіцкіх школ за цемрашальства і дылетантызм. Гэта быў выклік абывацельскім норавам тагачаснай эпохі, заганным прынцыпам і традыцыям рэальнага жыцця, гэта была спроба цывілізаванымі і гуманнымі метадамі дасягнуць сацыяльнага і духоўнага прагрэсу.

Юрыдычная адукацыя і практычная работа сталі прадпасылкай для напісання ў 1816 годзе навуковага трактата "Аб эксдывізіях або аб судовым падзеле маёнтка даўжніка на карысць крэдытораў", у гэтым жа годзе напісаў трагедыю "Кракус", у 1821 - аповесць "Пан Ян са Свіслачы, вандроўны крамнік", якая з'яўлялася адным з першых у гэтым жанры краязнаўчым апісаннем Беларусі. Гэта кніжка прынесла аўтару псеўданім.

Асабліва актыўна займаўся Ян Ходзька пісьменствам у Яноўшчыне. Акрамя названых вышэй твораў піша апавяданні, аповесці, навукова-гістарычныя працы і артыкулы па гісторыі Меншчыны, мемуары, у якіх узнаўляе карціны грамадскага жыцця з часу сваёй маладосці: "Брат і сястра", "Пані кашталянава і яе суседства", "Панства Чэснікоўства" і іншыя разам з напісанымі раней творамі склалі 12-томны "Збор размаітых твораў".(Вільня, 1837-42). У рукапісах засталіся дзве вершаваныя трагедыі "Баляслаў Крывавусты" і "Кракус". Першая з іх была пастаўлена на сцэне.

Ян Ходзька пісаў на польскай мове. Як адданы сын віленска-менскай зямлі апісваў тутэйшыя традыцыі і звычаі, распавядаў пра свой край на польскай мове вельмі набліжанай да беларускай манеры выкладу. Мова яго твораў сакавітая, шмат беларусізмаў. Сыракомля яго талент параўноўваў з талентам Лафантэна.

Яго верш "Як мяне хто пакахае" пазней пакладзены кампазітарам Станіславам. Манюшкам на музыку, складаецца з 95 слоў, дзе толькі 4 словы польскі лексікі, а астатнія-крыху "спольшчаная" беларуская лексіка. Верш без перакладу зразумее любы беларус.

# Шляхціц з-над Сэрвачы

### Педагагічныя погляды Яна Ходзькі

Кніжка Яна Ходзькі "Пан Ян са Свіслачы, вандроўны крамнік" напісана па ўзору французскай папулярнай кнігі М.Л. Тусье "Сімон дэ Нантуа або Кірмашовы гандляр". Аповесць з'яўляецца не толькі краязнаўчым апісаннем Беларусі ці ўзорам сельскай ідыліі, але яна мае глыбокі дыдактычны і пазнавальны падтэкст. Нездарма ў 1821 годзе Школьны Камітэт Віленскай навучальнай акругі ўхваліў яе і рэкамендаваў у якасці лемантара для вясковых школ. Кніга была разаслана ва ўсе школы Беларусі і Літвы, чатыры разы перавыдавалася на польскай мове і двойчы на літоўскай у перакладзе ксяндза Ю. Рупейкі.

Зробім экскурс па старонках кнігі. Галоўны герой кнігі вандроўны гандляр расказвае іператлумачвае ўсё тое, што бачыць па дарозе. Мы пройдземся толькі па тых старонках кнігі, дзе апісаны маршрут па сучасным Мядзельскім раёне: Будслаў-Мядзела. Што бачыла дапытлівае вока нашага земляка, што яго хвалявала?

Раздзел. *"Прабыванне ў Будславе. Пан Ян наведвае парафіяльную школу. Заўвагі і гутаркі з гэтай нагоды".*

Тут Ян апісвае школу ў Будславе 1815-1820 гадоў. Школа была на ўтрыманні айцоў бернардзінцаў, навучалася ў ёй 40 вучняў. Хаця школа называлася парафіяльнай, аднак у сапраўднасці рыхтавала вучняў да паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, бо давала такія веды як і ў павятовых школах; меліся 1-шы і 2-гі класы.

У школе займаліся дзеці розных саслоўяў. Вуснамі пана Яна Ходзька выказвае меркаванне, што хаця мясцовым уладам надае гонар, што вучацца дзеці розных саслоўяў, але для сялян лаціна не патрэбна, бо цяжка стаць вучоным, трымаючы саху, і часу селяніну не хопіць вывучаць вышэйшыя навукі. На яго думку для сялянскіх дзяцей дастаткова умець чытаць, пісаць, ведаць земляробства, жывёлагадоўлю, вясковыя рамёствы, умець весці гаспадарку. Ён лічыць патрэбным выхоўваць у дзецях рэлігійнасць, патрыятызм, любоў да працы, павагу да бацькоў і суседзяў.

У гутарцы з сялянскімі дзецьмі ён пераконвае іх, што акрамя вучобы патрэбна выконваць абавязкі хлебароба, раіць у час канікул не фанабэрыцца, лянівых вучняў прапануе дырэктару адсылаць дадому…

Раздзел *"Кірмаш у Мядзелі. Абход кальварыі".*

Тут Ходзька піша, што на кальварыі было шмат п'яных і жабракоў, якія сядзяць на дарозе. Пасля гутаркі з жабракамі ён прыходзіць да высновы, што большасць з іх збяднелі з-за гультайства. Апісвае, як жанчыну Дароту абвінавачвалі ў чарадзействе, што малако, забірае ад кароў, сурочвае людзей. Ян расследуе факты і выкрывае, што каровы даюць мала малака з-за недагляду.

Навогул, кніга насычана рознымі парадамі. Продаж тавару суправаджаецца інструкцыямі, як ім карыстацца. Герой кнігі вучыць людзей як вырошчваць хмель, рыхтаваць на зіму грыбы, фарбаваць і працці воўну, угнойваць і апрацоўваць зямлю, уводзіць севазвароты, рэкамендуе асушаць балоцістую глебу, вучыць рацыянальнаму асвятленню хат, пляценню капелюшоў, кошыкаў, дае медыцынскія парады: як ратаваць ад запалення, лячыць учадзелых, воспу, панос, ратаваць тапельцаў. Шмат увагі ўдзяляе барацьбе з забабонамі і п'янствам, выступае супраць пышных хаўтураў з гарэлкай.

Як прадстаўніка шляхецкага саслоўя педагагічныя погляды Яна Ходзькі кансерватыўныя. Ён настойваў, каб сяляне заставаліся сялянамі і верна служылі панам, гэта значыць, што разглядаў асвету з саслоўных пазіцый, але той факт, што ў кнізе выказваецца канцэпцыя асветы для народа, заслугоўвае ўвагі як адзін з этапаў педагагічнай думкі ў Беларусі. Сучаснік Яна Ходзькі ўрач С. Мараўскі так характарызуе яго: *"Муж у любых адносінах выдатны…, адзін з апошніх узораў нашых шаноўных і несапсаваных чужаземшчынай. Гэта-шляхціц".* Не пагадзіцца з ім немагчыма.

### Дзеці Яна Ходзькі

Ад шлюбу з Кларай з Корсакаў меў шэсць сыноў, якія пакінулі значны след у гісторыі не толькі Беларусі, але і ўсяго свету. Гэта дало падставу мемуарысту. Станіславу Мараўскаму напісаць пра сям'ю Ходзькаў: *"Грэх сказаць, што дзе калі-небудзь быў Ходзька, то здольны. Дурня з гэтым імем я не ведаў".* Сын Яна Ходзькі Станіслаў Ігнацы (1794-1861) - хімік, прафесар, публікаваў навуковыя працы па земляробству, Уладзіслаў (1799-1842) быў гранічным суддзём і засядацелем суда Вілейскага павету. Яго жыццё скончылася трагічна. Калі захварэў, застрэліўся на кватэры ў Вілейцы. Сын Юзаф (1800-1881) - вядомы геадэзіст, склаў першыя карты Каўказа, дакладна абмераў гару Арарат, зрабіў вымярэнні для Літвы Румыніі, Малдовы. Фелікс Напалеон падчас паўстання 1830-1831 гадоў быў кіраўніком паўстанцкага атрада ў Крывічах, потым узначальваў аб'яднаныя вілейска-дзісненскія сілы . Як інжынер працаваў на чыгунцы ў Францыі, зрабіў шмат дасягненняў у фізіцы за што быў ганараваны залатым медалём. Аляксандар (1804-1891) - паэт-рамантык, фальклярыст, усходазнавец, прафесар славянскіх літаратур, выдаў 5 навуковых прац, запісаў фальклор туркменаў, персаў, зрабіў турэцкі размоўнік. Міхал Ян (1808-02.05.1879) - удзельнік паўстання 1830-1831 гадоў, паэт, напісаў 2 паэмы "Дзесяць абразкаў з паездкі ў Польшчу", і "Два Акты" (1843), 7 навуковых прац па краязнаўству, перакладаў з нямецкай і англійскай моў.

### Заняпад маёнтка Ходзькаў

Апошнім, хто гаспадарыў у былым маёнтку Ходзькаў, быў немец Егер. Калі ў 1939 годзе прыйшлі саветы, немец-гаспадар з Крывічоў уцёк. Згадваюць, што падчас нямецкай акупацыі ў былы маёнтак Ходзькаў прыязджалі нейкія людзі, разглядалі прывезеную схему сядзібы, нешта вымяралі ад будынкаў і старых дрэў, капаліся ў зямлі, нешта знайшлі, забралі ў чамаданы і з'ехалі. Ці гэта былі нашчадкі Ходзькаў, ці сам немец Егер, ніхто не ведае.

На месцы былога маёнтка засталася гаспадарчая пабудова-склеп, захаваліся абрысы вялізнай клумбы, якая знаходзілася перад сядзібай, уездная дарога, ад алеі якой засталіся два дрэвы.

Ходзькі былі калятарамі (апекунамі) касцёла. святога Андрэя Баболі. Побач з алтаром знаходзіцца васьмігранная памятная дошка, якую ўстанавіў для сваіх бацькоў Юзафа і Канстанцыі Ян Ходзька. Уверсе дошкі маюцца выявы гербаў Ходзькаў і Буйніцкіх. На дошцы змешчаны наступны тэкст на польскай мове: "Pamiatka najukochanym rodzicom w Bogu zeszlym Juzefowi Borejkowi Chodzkowi Prezidentowi dozywotnemu ziemstwa Oszmianskiego zmarlego w 1782 stycznia 24 na 55 m roku zycia i zony jego Konstancyi z Bujnickich Chodzkowej zmarlej 1858 lipca 11 skonczywszy 94 lat zycia od wdziencznego syna Jana Borejkow Chodzkow polozony".(“Памяць найулюбёным бацькам у Богу памерлым Юзафу Барэйку Ходзьку пажыццёваму Прэзідэнту Ашмянскага земства, памерламу 24 студзеня 1782 на 55-м годзе жыцця, і яго жонцы Канстанцыі з Буйніцкіх Ходзька, памерлай 11 ліпеня 1858, скончыўшы 94 гады жыцця ад удзячнага сына Яна Барэйкі Ходзькі ўстаноўлена”).




*Памятная дошка ў гонар бацькоў Яна Ходзькі ў Крывіцкім касцёле*




*Склеп маёнтка Ходзькаў у Крывічах*

### Крывічы як турыстычны аб'ект Мядзельшчыны

Сам тапонім ***крывічы*** выклікае цікавасць. Крывічы-назва-этнонім, гэта значыць, паходзіць ад назвы этнічнай групы-славянскага племені крывічоў, якія з VI па IX стагоддзе жылі на вялікіх тэрыторыях. Упершыню пра крывічоў паведаміў візантыйскі пісьменнік Канстанцін Багранародны і "Повесть временных лет", дзе сказана, што крывічы ўдзельнічалі ў паходах Алега і Ігара супраць Візантыі. У канцы Х стагоддзя саюзы крывіцкіх плямёнаў увайшлі сваімі "княжаннямі" ў склад славянскай супольнасці “Русь”. Частка крывіцкіх плямёнаў, якія ў IX-X стагоддзях тут жылі ў той жа"Аповесці былых часоў" называюцца палачанамі, як аб'яднаныя ў саюз з цэнтрам у Полацку. Гэтыя старажытныя палачане і далі пачатак Полацкаму княству - аднаму з самых ранніх у межах Беларусі тэрытарыяльна-палітычнаму аб'яднанню. Апошняе ўпамінанне пра крывічоў належыць да другой паловы XII стагоддзя. Хаця ў другой палове XIX стагоддзя шэраг гісторыкаў і літаратараў, у тым ліку і У. Сыракомля, беларускую мову ўсё яшчэ называлі крывіцкім дыялектам.

Цікавасць уяўляе касцёл святога Андрэя Баболі, пабудаваны ў 1776 годзе манахамі ордэна трынітарыяў, запрошаных у 1770 годзе цівуном і падкаморым трокскім Андрэем Укольскім. Касцёл - помнік архітэктуры барока. Алтар багата ўпрыгожаны пуцці (галоўкамі хлопчыкаў з крыламі) і скульптурамі апосталаў. У ім знаходзіцца цудатворная скульптура Ісуса Хрыста, зробленая ў Рыме, частка мошчаў Андрэя Баболі.

Ну і Ходзькі. Не кожны пасёлак можа пахваліцца такім родам як Ходзькі. Варта ўвекавечыць крывіцкі род Ходзькаў памятным знакам, папулярызаваць дзейнасць прадстаўнікоў іхняга роду, а Крывічы ўключыць у турыстычны маршрут.

Не лішнім будзе паслухаць турыстам і мясцовую легенду "Крывіцкая князёўна".

*“За дзедам-прадзедам-шведам тое было. На беразе Сэрвачы стаяў замак. Жыў у ім князь, у якога была прыгажуня-дачка. І кахала яна простага крывіцкага хлопца. Князь ведаў пра гэта і не пярэчыў. Аднойчы з'явіліся ў гэтых мясцінах шведы. Іхні верхавода даведаўся пра прыгажуню і паслаў да князя ганцоў, каб высваталі яе за жонку. Князь адмовіў. Тады верхавода вырашыў заваяваць землі князя, разбурыць замак і сілаю забраць дачку. Акружылі замак і пачалі браць яго прыступам. Сілы абаронцаў слабелі. Князёўна з каханым схаваліся ў падзямеллі, а потым патайным ходам уцяклі з замка. Шведы захапілі замак, але прыгажуні не знайшлі. Раз'юшаны верхавода загадаў знішчыць увесь крывіцкі род: дзяцей і старых забіць, маладзіц забраць у рабства, а замак разрабаваць. Пераможцы ў замку наладзілі пышнае баляванне. Князёўна ж і яе каханы пераплылі Сэрвач, у навакольных вёсках набралі смелых дужых хлопцаў, з якімі ноччу патайным ходам прабраліся ў замак і разббраілі п'яную дружыну. Верхавода ўратаваўся ўцёкамі. Так крывіцкая князёўна ўратавала свой крывіцкі род ад загубы.”*

(Паводле расказу Кардовіча Іосіфа з вёскі Плашына.)

**Іван Драўніцкі.**



*Касцёл у Заслаўі, на цвінтары якога магіла Яна Ходзькі*

# Уладзімір Содаль:

## "Хочаш - не хочаш, а цябе ў вышыванцы прызнаюць за беларуса"



Мусіць, самая пара настала распавесці пра маю вышыванку. Упершыню я апрануў яе ў 1961 годзе, больш за паўстагоддзя таму. Гэта быў падарунак мне на вяселле. Пазней я даведаўся, якой ахвярай была тая вышываная кашуля.

Мая стрыечная сястра Люся вучылася тады ў Гомельскім універсітэце. З грашыма было скупа, ведама, студэнтка. І яна мусіла здаваць кроў, каб зрабіць мне такі каштоўны і незабыўны дарунак.

Досыць часта я апранаў сваю прыгожую вышыванку, асабліва ўлетку. Яна і напраўду, як казаў Сяргей Панізнік, халадзіць цела. Другое, вышыванка - гэта заўсёды лепшы настрой, як на свята, урачыстасць, яна вылучае годна з шэрай масы. У вышыванцы - хочаш не хочаш, а цябе прызнаюць за беларуса. Надаралася і такое, калі некаторыя спрабавалі неяк азмрочыць маю святочнасць. Памятаю, як адзін дзеяч, убачыўшы мяне ў вышыванцы сярод моладзі ў Траецкім прадмесці, незычліва і знішчальна выціснуў: - "Этнаграфічны беларус!" - і гэтульскі было грэблівасці ў ягоным тоне. Хоць я не забыўся да гэтае пары на той непрыемны эпізод, але ад сваіх вышыванак не адмовіўся. У мяне іх зараз аж тры. Я іх заўсёды апранаю з нагоды самых урачыстых падзей.

У падараванай мне стрыечнай сястрой вышыванцы браў шлюб мой сын - Марат, у ёй распісваўся ў ЗАГСе і згуляў вяселле. Настальгічны дух вышыванкі з малых гадоў перадаўся і майму ўнучку Сяржуку Чылікіну-Садэльскаму. Шэраг ягоных фотаздымкаў даносіць да нас гэтыя ўрачыстыя моманты. Пры любой ўрачыстасці, пры любой святочнай нагодзе ён сам, без усялякай нагады кагось са старэйшых, апранае сваю вышыванку. Вось наш трынаццацігадовы Сяржук пры сваіх імянінных свечках. А вось на гэтым здымачку ён у вышываначцы на сустрэчы з студэнтамі Менскага педагагічнага дзяржаўнага ўніверсітэта ў кабінеце беларускай мовы. Аднойчы Сяржук гэтак распавёў:

"Дарагая вышываначка, яе падаравала мне бабулька Клара з дзядулем Уладзем! У ёй я ездзіў на Кіпр. Хоць там спякотна і ўсе ходзяць у адных шортах, я не аднойчы апранаў беларускую вышываначку. Няхай ведаюць, што я з Беларусі, што я беларус.

Я не адзін раз каля помніку Янку Купалу ў вышыванцы расказваў свае вершы. Мяне ў ёй намаляваў мастак Алесь Цыркуноў. Часам у ёй я і пішу. У вышыванцы пачуваюся радасным, узнёслым, натхнёным. Шчаслівым. Іншым разам хаджу ў ёй у школу.

Вышыванкі - нацыянальная беларуская вопратка. Даўней кожны беларус меў сваю вышываначку. Яе апраналі на святы. Вышыўка на кашулі - не толькі ўкраса. Гэта яшчэ і абярэг. На грудзях маёй кашулі дзве беечкі з арнаментам. Яны аберагаюць маю душу, даюць натхненне, а воку - насалоду і радасць".

Гэтак пісаў і распавядаў Сяржук пра сваю вышываначку ў 2002 годзе, надрукавана ў кніжцы "Святло маёй крынічкі". З тае пары ён пасталеў, стаўся студэнтам. Прынамсі, гэтымі днямі да сваіх ранейшых разваг ён дадаў:

"У любога на свеце народа ёсць адметныя рысы нацыі: гэта чалавечая наша прырода, што дадае нашаму роду грацыі. Калі я апранаю сваю вышыванку, то адчуваю сябе Беларусам. Менавіта так, з вялікай літары. Адчуваецца нейкі гонар за прыналежнасць да нашай нацыі, адчуванне ўзвышанасці, узнёсласці, нечага светлага, незвычайнага. Калі ў добрым настроі і ў вышыванцы, хочацца прайсціся па шматлюднай вуліцы, каб лавіць на сабе зацікаўленыя позіркі. Вышываначка - для душы і сэрца мне наталяначка!".

*Паводле расповеду Ул. Содаля і яго ўнука*
***падрыхтавала Яна Трубач.***

**На фота:** удзельнікі свята ў Вязынцы Ул. Содаль і Л. Юстыновіч.

# НА ЎЗЛЁЦЕ СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ



28 чэрвеня споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння беларускага пісьменніка, крытыка і літаратуразнаўцы Івана Фёдаравіча Кудраўцава. З нагоды гэтай падзеі сябры Салігорскай суполкі "ТБМ імя Ф. Скарыны" вырашылі адзначыць юбілей пісьменніка шэрагам сустрэч з яго землякамі і звярнуліся ў Салігорскі выканкам дазволіць правесці ў адным з залаў клуба ці бібліятэкі горада Салігорска і ў школе г.п. Старобін, у якой вучыўся пісьменнік, такія сустрэчы, на якіх напярэдадні свята Незалежнасці павесі размову аб патрыятызме нашага народа ў гады Другой сусветнай вайны па матывах яго рамана "Разгневаная зямля".

Аднак Салігорскі выканаўчы камітэт за подпісам старшыні А.Б. Рымашэўскага не ўзгадніў "правядзенне сустрэч з зямлякамі пісьменніка І.Ф .Кудраўцава ў колькасці 25-30 чалавек у адным з залаў бібліятэк ці клубаў г. Салігорска і гарадскім пасёлку Старобін з 23 па 28 чэрвеня 2012 года ў сувязі з падрыхтоўкай і правядзеннем святочных мерапрыемстваў, прысвечаных Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь Салігорскім равёне". Якое цынічнае блюзнерства! Гэта ўжо 4-ая запар адмова Салігорскага выканкаму на правядзенне сябрамі ТБМ памятных сустрэч з землякамі раёна ў гонар знакамітых асоб з нагоды іх юбілеяў.

Тым не менш сустрэчу з землякамі пісьменніка І.Ф. Кудраўцава мы ўсё ж правялі на яго малай Радзіме ў вёсцы Сіцянец каля яго былой сядзібы пад раскідзістым вязам. Яго стрыечная сястра Наталля Пятроўна Пятровіч (1933 г. нар.) і яго суседзі Брылеўскі Ўладзімір Андрэевіч (1930) і Некрашэвіч Іван Дзмітрыевіч (1937) добра памятаюць Івана Фёдаравіча, які пражыў 82 гады і не адзін раз з імі сустракаўся з рознай нагоды. А заўзяты аматар роднай мовы паэтэса Ніна Ярмалінская станоўча і цікава расказала пра творчы і жыццёвы шлях нашага земляка, пра патрыятызм нашага народа ў гады Другой Сусветнай вайны па эпізодах яго рамана "Разгневаная зямля".

Цёплая сустрэча з землякамі А. Ф. Кудраўцава прайшла на багатым узлёце светлай памяці. Нечакана нават было зроблена маленькае адкрыццё: назва невялічкай вёсачкі паходзіць ад прозвішча лесніка Сіценя, які першым тут пабудаваў сабе дом за два кіламетры ад Старобіна. Несумненна гэтая юбілейная сустрэча землякоў у гонар нашага пісьменніка А.Ф. Кудраўцава захаваецца ў памяці на ўсё жыццё і ў маладых нашчадкаў Дзялендзіка Мішы (2001) і Сафонава Сашы (1999). Толькі такія шчырыя сустрэчы яднаюць народ роднымі каранямі блаславёнай Спадчыны.

*Старшыня*
*Салігорскай суполкі*
*"Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"*
***М. Шаравар.***

**На здымку:** 28.06.2012 г. насупраць былой сядзібы пісьменніка І.Ф. Кудраўцава справа-налева: аўтар артыкула, стрыечная сястра пісьменніка Н.П. Пятровіч, намеснік суполкі ТБМ У.Г. Масакоўскі, землякі пісьменніка У.А. Брылеўскі, І.Д. Некрашэвіч, У.У. Міхнавец, Міша Дзялендзік, Н.А. Ярмалінская, Саша Сафонаў.
*Здымак А. Тычыны.*

# Мемарыяльная выстава Вячаслава Дубінкі

27 чэрвеня ў Палацы мастацтваў адбылося адкрыццё мемарыяльнай выставы Вячаслава Андрэевіча Дубінкі "Я проста ў далёкай вандроўцы", якая прысвечана 70-годдзю з дня нараджэння мастака.

Нарадзіўся Вячаслаў Андрэевіч 17 снежня 1941 г. у Слуцку Менскай вобласці, а памёр 10.08.2010 года. Ён скончыў Чарнавіцкі тэхнікум чыгуначнага транспарту (1961), некалькі год працаваў будаўніком, будаваў вайсковыя аб'екты ў Мазыры, Ельску, Петрыкаве, Бабруйску, але ўжо з 1965 года - фотакарэспандэнт раённых, а пазней і цэнтральных газет Беларусі, рэдактар аддзела часопіса "Беларусь", прызёр шматлікіх міжнародных фотавыстаў (атрымаў медаль на "Інтарпрэс 81" у Маскве, і ў гэтым жа годзе Вячаслаў Андрэевіч пачынае займацца выцінанкай.

Амаль 50 гадоў таму Вячаслаў Дубінка адрадзіў папулярны некалі, але забыты на Беларусі від народнага мастацтва Выцінанкі - выразанкі з паперы - арыгінальны від народнага ўжытковага мастацтва, пашыранага ў Беларусі ў XVIII-XIX стст. , некалі вельмі распаўсюджанага ад Японіі да Францыі і амаль зніклага ў сярэдзіне мінулага стагоддзя на Беларусі.

Работы В. Дубінкі захоўваюцца ў музеях Польшчы, Літвы, Расіі, Украіны. Паводле выцінанак Вячаслава Дубінкі зроблена керамічная аздоба пры афармленні метро ў Харкаве. Ён жа - аўтар кніг прозы "Не плач, душа мая", "Браты святой ночы", "Сіндыкат Мані Дулі", аформіў выцінанкай зборнікі казак, кнігі паэзіі, дзіцячыя кніжкі. У 2011 годзе выдадзены яго арыгінальны аўтарскі альбом "Выцінанкі".

На адкрыцці выставы выступалі Рыгор Сітніца, Аляксей Марачкін, Уладзімір Басалыга.

***Аляксей Шалахоўскі,***
*гісторык культуры, журналіст.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by



**http://nashaslova.mns.by/ http://pawet.net/**
**http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеная інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 9.07.2012 г. у 10.00. Замова № 1273.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 3850 руб., 3 мес.- 11550 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.